ніжэйшага функцыянера на чыгунках з дзяржаўнай службы. Гэта роўнае трактаваньне, вольны доступ да ўрадаў, гэта — справядлівасьць, гэта — конституцыя!

У § 97 гаворыцца, што няма аграничэньняў асабістай вольнасьці, а калі агранічана яна, то толькі судом. Гэта ёсьць толькі насьмешка з народу. Кожны паліцыянт найніжэйшага гатунку, кожны адміністрацыйна-„крэсовы“ лобуз зьяўляецца ня толькі панам жыцьця, але панам жыцьця і сьмерці. Салдатчына так разгулялася на ўсходніх „крэсах“, як ня бачылі гэтага ні пры якім урадзе, ні пад якім заборам. Гэтага, што робіцца цяпер, калі цэлыя дзесяткі салдат зьяўляюцца на вясельле, хочуць выкінуць за дзьверы ўсіх весялячыхся, самы скачуць і п'юць, — гэтага ня бачылі мы ў царскія часы, ані за часоў нямецкай акупацыі. — Асабістая вальнасьць нібы забясьпечана конституцыяй. Ня маюць права затрымоўваць грамадзян у арышце болей чым 48 гадзін, а тымчасам бяз акту абвінавачаньня сядзяць цэлымі гадамі. — Есьць выпадкі, калі па тры гады сядзяць людзі. Нядаўна, іменна, злажылі мы інтэрпэляцыю, што малалетнія хлапцы па 17 і 18 гадоў сядзяць бяз акту абвінавачаньня балей году. Гэта называецца асабістай вольнасьцяй. Сёньня вялікія людзі гавораць аб амэрыканскіх узорах. Польская паліцыя ня толькі ўзяла ўзор, але перасягнула мэтады амэрыканскай паліцыі, а іменна — пры біцьці ўжываюцца найбольш выдуманыя мэтады біцьця. Найболей распаўсюджаным, — памінаючы ўжо біцьце гумовымі кіямі ў пяты, — зяўляецца ўліваньне дзесяткаў літраў вады праз нос у нутро, а асабліва леткія, чалавека.

(**Кавэцкі**: падайце факты).— Факты ня раз падаваў.

**П. Маршалак**: Пане, пасол, гэта не да рэчы.

**П. Тарашкевіч**: Пане маршалку, я перакананы, што гавару да рэчы, бо гавару аб конституцыі.

**П. Маршалак**: Пане пасол Тарашкевіч. Сёньня гаворым аб конституцыі. Найдалейшая талеранцыя не пазваляе мне дапусьціць да такога адходу ад тэмы.

**П. Тарашкевіч**: Трудна, калі аб праўдзе ня можна гаварыць, але праўда сама за сябе гаворыць. Пад націскам з боку п. маршалка пакіну гэтыя рэчы, — урэшце вельмі знаныя. Жадаючы вельмі шырокіх паўнамоцтваў для сябе, цікавай ёсьць рэчай, што ўрад выключае пэўныя момэнты з гэтых паўнамоцтваў, а іменна „языковыя ўставы“. Языковых уставаў урад ня можа рушыць.

Гэта, паны, я думаю ахвяра, урэшце вельмі лёгкая для ўраду, — ахвяра на карысьць правых груповак, перад якой урад хоча адкупіцца. Урад п. Бартля і Пілсудскага папросту ўмывае рукі і трэба з гэтага заключаць, што, калі грамадзкі воблік гэтага ўраду ёсьць зусім выразны, то таксама зусім выразным ёсьць воблік гэтага ўраду для нацыянальных меншасьцяў, а перадусім да беларусаў і ўкраінцаў, незалежна ад таго, што людзі, засядаючыя ў гэтым ўрадзе, дэклямавалі і вельмі пекна дэклямуюць аб нацыянальных меншасьцях, аб сваіх нібы вельмі далёка сягаючых лібэральных замерах. Мы цьвердзім, што курс цяперашняга ўраду ёсьць хучэй больш страшны для ўкраінцаў і беларусаў, чым курс папярэдніх урадаў. І апіраемся тут на тых канцэпцыях, з якіх новы урад, урад Пілсудскага, пачынае ўпраўляць у Польшчы. Урад г. зв. маёвай рэвалюцыі ёсьць у грунце рэчы адною з пружынаў англа-амэрыканскага капіталу, таго капіталу, які хоча з Польшчы зрабіць земляробны край, край вывазу збожжа, прадуктаў земляробства і ўвозу з заграніцы — тавараў амэрыканскай, ангельскай і нямецкай прамысловасьці.

Урад, які вядзе палітыку аграрызацыі Польшчы, ніколі ня можа пагадзіцца з тэрыторыяльнымі меншасьцямі, а іменна, з беларусамі і ўкраінцамі, бо ясна, што прамысловасьць можа праглынуць, можа даць значна большай колькасьці рабочых рук заробак, чым зямляробны край. А тым часам прырост людnасьці ў Польшчы ёсьць вельмі вялікі і адзіным выхадам для гэтай людnасьці, паводле думкі ўраду п. п. Бартля і Пілсудскага і ўсяго абозу „напраўцаў“ Рэспублікі — гэта Усходнія „Крэсы“. І гэта зусім не выпадкова, што Пілсудскі і ўвесь яго абоз зьяўляецца патронам польскага асадніцтва на „Крэсах“. Гэта арганічна лучыцца адно з другім.

Праўдзівай пабедай для працоўнага люду будзе ня тая ці іншая „направа“, ня той ці іншы бурамонт Конституцыі, але праўдзівай пабедай будзе забраньне ўлады, стварэньне сялянска-работніцкага ўраду,—стварэньне ураду на падставе працоўнай дэмакратыі, не на падставах, абапёртых на гутарках, — парлямантарна-дэмакратычных, але на падставе дэмакрацыі працы. Аж да тае пары пакуль уся ўлада не пяройдзе ў руік сялян і работнікаў, ніякая пісаная Конституцыя не забясьпечыць інтэрэсаў сялян і работнікаў. Беларускі селянін казаў перад тым: пеpажылі мы царскія часы, пеpажывём і Конституцыю. Цяпер гэта збылося: пеpажылі мы цара, пеpажылі малёваную Конституцыю, — пеpажывём і рамантованую Конституцыю. (Воплескі на лявіцы).

# Прамова

**дэпутата п. Валошына з Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, сказанная 6. VII. 1926 году у часе дыскусіі над Урадавым праектам аб зьменах Конституцыі.**

Парлямантарызм і конституцыяналізм бяруць свой пачатак у часы заламаньня абсалютызму ў барацьбе буржуазіі з фэодаламі. Гэта быў час, калі капіталізм у сёньняшнім разуменьні гэтага слова быў яшчэ зусім малады і калі пэўныя грамадзкія свабоды былі навет неабходны для разьвіцьця прамысловасьці. Тады гэты лёзунг конституцыі і парлямантарызму быў у пэўнай меры рэвалюцыйным і мабілізаваў масы да барацьбы з абсалютызмам. У меру таго, як месца цароў і каралёў з божай міласьці займалі каралі жалеза, вугля і г. д. — траціў значэньне і парлямантарызм, як такі. Цяпер парлямантарызм зьяўляецца ўжо толькі ілюзіяй, пры помачы якой сытая ўлада, буржуазія, і ўгадовыя павадыры пралетарыяту ашуквалі працоўныя масы, — парляманты сталіся прыбычай торгу паміж капіталістамі і згодай коштам працоўных мас.

Польскі парлямантарызм асабліва карыкатурны, бо на польскае грамадзкае жыцьцё выразна налажылі свой адпячатак унасьледаваныя па быўшых царскіх і цэсарскіх урадах уставы і кадэксы. Апрача таго польскі конституцыяналізм ня вырас так, як іншыя, у барацьбе з абсалютызмам, ня быў будаваны знізу масамі, а быў уступкаю з боку буржуазіі на карысьць масаў, быў „ахвяраваны“ зьверху. Прычынай гэтага быў факт, што Польшча як самастойная дзяржава паўстала ў часе паваенным і ў часе рэвалюцыйным і буржуазія гатова была пайсьці на ўсялякія часовыя ўступкі, каб толькі прыцішыць і затрымаць рэвалюцыйны настрой масаў. **Таму-та ў Польшчы стасуюцца дзьве конституцыі: адна пісаная і мертвая з 1921 г., а другая жывая, выражаючаяся ў крывавым тэроры шляхты і адміністрацыі ў адносінах да сялян, работнікаў і ўціснаных нацыянальнасьцяў.**

Запрапанаваны Сойму праект зьмены конституцыі перачырківае зусім парлямантарызм, касуе апошнія ілюзіі дэмакратыі, а ўводзіць на яе места дыктатуру. Устаў гэты праектуе наступныя зьмены ў дагэтачасным ладзе Польшчы: 1) дае прэзыдэнту Рэспублікі права: а) самавольнага роспуску Сойму, б) выдаваньня загадаў на моцы ўставу, в) не згадзіцца з прынятымі Соймам уставамі і 2) пазбаўляе Сойм права прыняцьця бюджэту. **Апрача таго дае ўраду неабмяжоўваныя паўнамоцтвы на час да 1 студзеня 1928 г.**

Праект гэты дае прэзыдэнту Рэспублікі і ўраду дыктатарскія паўнамоцтвы і зводзіць да нуля ўдзел Сойму ў Урадах. Калі-б прыняўся гэты праект, Сойм зрабіўся-б нечымсь у родзе прыбочнай рады дыктатуры і меў бы назначэньне засланяць сваім істнаваньнем нагату дыктатуры. Урад дамагаецца большых правоў коштам Сойму, хоча пазбавіць Сойм усіх правоў сувэрэннасьці, а гэтым самым адняць у яго тое, што зьяўляецца зьместам і сутнасьцяй парлямантарнага ладу. Пазбаўленьне Сойму права кантролі над спосабам раскладу і падзелу ўрадам даходаў дзяржавы нішчыць сутнасьць парлямантарызму. § 4 гэтага праекту, даючы выдаваным бяз удзелу Сойму распараджэньням прэзыдэнта Рэспублікі моц уставу, пярэчыць самой аснове сувэрэннасьці Сойму і нявечыць элямэнтарныя падставы народапраўя. **Параграф гэты аналёгічны з знамянітым рэакцыйным § 14 аўстрыяцкай конституцыі, які зьяўляўся сутнасьцяй абсолютызму ў манархіі Габсбургаў, а таксама § 87 царскага асноўнага ўставу.**

Права самавольнага роспуску Сойму Прэзыдэнтам Рэспублікі зьяўляецца проста бізуном у руках Ураду. Сойм мусіў-бы ў такім выпадку выбіраць: **або быць пакорным аружжам упраўляючых сфэраў, або наражацца па разгон яго.**

**Урадавы** праект яшчэ больш **рэакцыйны**, чым пректы, пададзеныя да гэтае пары абозам Хіена-Пяста. Жаданьне правіцы зводзіцца галоўным чынам да зьмены выбарнай сыстэмы (Ordynacji wyborczej) і агранічэньня права пасольскай непарушнасьці, што раўняецца **зьмяншэньню ліку мандатаў для сялянска-работніцкіх мас і тэрарызаваньню апазыцыйных паслоў у будучым Сойме.** Сучасны Урад „маральнага адраджэньня“ хоча ў сваім рэакцыйным праекце яшчэ большых абмежаваньняў сялянска-работніцкага абозу, чым навет пасьмела жадаць група капіталістычна-абшарніцкай буржуазіі. **Лёзунгам правіцы было: зрэдукаваць да мінімума сялянска-работніцкую апазыцыю ў будучым Сойме, — лёзунгам ураду Бартля-Пілсудскага зьяўляецца: далоў Сойм, Няхай жыве дыктатура!**

Гэтэе імкненьне з боку капіталістычных польскіх кругоў да зьліквідаваньня навет гэтай карыкатурнай Конституцыі, якая абавязвала да гэтай пары,—імкненьне да дыктатуры,—не зьяўляецца нечымсь адорваным, ня ёсьць гэта зусім арыгінальнай выхадкай польскага капіталізму. Гэта ёсьць плятформа, на якую зыходзіць цяпер міжнародны капіталізм. Прычынай гэтага зьяўляецца з аднаго боку разьвіцьце і крысталізаваньне капіталізму, які ня хоча сьцясьняць сябе ніякім псэўдоконституцыяналізмам, — з другога боку — роўналежнае разьвіцьцё клясовай сьвядомасьці і арганізацыі працоўных клясаў, якія капіталізм хоча зьнішчыць за ўсялякую цану. Гэтым жа іменна масам дае конституцыяналізм іншы раз пэўную мінімальную свабоду руху, чаго ня хоча далей цярпець развяльможнены капіталізм. Капіталізм у сучасны мамэнт чуецца паважна ў небясьпецы і робіць вялікую стаўку: **або да канца здушыць і сьціснуць працоўны люд урадам „моцнай рукі“, або застацца пераможаным.** Гэтакую іменна гульню распачала польская буржуазія ў паразуменьні з падтрымоўваючым яе заграничным капіталіам.

Палітычны воблік абозу Пілсудскага выявіўся ўжо даволі. Дайшоўшы да ўлады помаччу сялян, работнікаў і дробнага мяшчанства, Пілсудскі паклікаў да жыцьця гэты самы Сойм, проці якога біўся і выразна аб'явіў, што **не нарушыць сацыяльнай раўнавагі — іначай кажучы — ня ў чым ня зьменіць дагэтачаснага укладу сіл у ўрадах. Арыштаваныя ў першых днёх бойкі гэнэралы цяпер звольнены, тады, як палітычныя вязьні, укінутыя за краты папярэднімі ўрадамі, да гэтай пары гніюць у вастрогах. Урад Пілсудскага прадоўжыў наглыя („doraźne“) суды,** Бізун, якім пагражаў Пілсудскі непаслушным, ізноў спаў на тых самых, з якімі **змагаўся і ўрад Хіена-Пяста,** г. ё. на сялянска-работніцкія масы. Паліцыя Пілсудскага зьдзеквалася над сялянамі ў Баранавіцкім і Вялейскім павеце і дратавала сялян коньмі;—паліцыя Пілсудскага арыштоўвала ў Беластоцкім ваяводзтве ў Тамашове, страляла ў работнікаў у Астроўцу, у Гостыніне і Іноўроцлаве і г. д. **Агэнты дэфэнзывы і далей прадаўжаюць агідны тэрор на землях Заходняй Беларусі У многіх спорах беларускіх сялян з абшарнікамі за зямлю або лес паліцыя Пілсудскага зьяўлялася на кожны ківок пальцам абшарніка і спаўняла ролю абшарніцкіх эканомаў.** Ува ўрад запрасіў Пілсудскі знанага манархіста, віленскага абшарніка Станевіча на міністра зямельных рэформаў, — значыць зямельнай рэформы ня будзе; — на міністра земляробства — абшарніка Рачынскага, на міністра скарбу — даверaную асобу польскіх капіталістаў — Клярнэра, на міністра чыгунак — хадэка Ромоцкага. Урад Бартля-Пілсудзкага прадказвае зьліквідаваньне міністэрства Публічных Работ і міністэрства Працы і Грамадзкай апекі; — міністар Станевіч маніцца ўзнавіць асадніцтва на нашых землях, міністар Квяткоўскі прадказвае, што работнік будзе больш працаваць, як да гэтага часу, — значыць маем пэрспэктывы прадаўжэньня рабочага дня і абніжэньня платы і г. д.

**Характэрыстычным зьяўляецца таксама тое, што Пілсудскі знаходзіць падтрыманьне ўва ўсім капіталістычна-абшарнічым абозе.** — Зараз пасьля перавароту зьявіліся да пераможшага прадстаўнікі „крэсовай“ шляхты з выражэньнем чэсьці і аддансьці. Перамога Пілсудскага азначала для „крэсовай“ шляхты замацаваньне яе ў сваіх хвальварках і надзею здабыцьця зямлі, сканфіскованай на карысьць сялян у суседніх Савецкіх Рэспубліках.

Орган віленскіх абшарнікаў - манархістаў „Słowo“ піша: „Пане Маршалку! Пры табе стаімо і пры табе стаяць хочам“. Урад Бартля-Пілсудскага прыходзіць сягоньня да Сойму з жаданьнем даць яму неабмяжованыя паўнамоцтвы. Мала гэтага, урад дамагаецца ад Сойму, каб Сойм нібы сам на сябе выдаў прыгавор сьмерці, каб Сойм зрокся сваіх правоў на карысьць ураду.

Правы гэтыя патрэбны ўраду для свабоднага правядзеньня ў жыцьцё гаспадарчага пляну заграничнай фінансіэры.

Злучаны англа-амэрыканскі капітал згадзіўся фінансаваць за цану добрых працэнтаў „маральнае адраджэньне“ Польшчы. Газэты пішуць, што прафэсар Кэммэрэр прыехаў да Варшавы на чале місіі рэчазнаўцаў. Заграничнае золато, блізкасьць якога загарантавала навет спадак злотага на гелдзе, прыходзіць да Польшчы за цану замены Краю на Колёнію, якая мае зрабіцца рынкам збытаў і прадукаваць сыровец. Для сялян і работнікаў азначае гэта сапхненьне працоўных масаў да ролі белых мурзынаў, якія сваею працаю мусяць даць процэнт за зложаныя ў Польшчы капіталы. **Польскія абшарніча-капіталістычныя кругі спакойна глядзяць на прышласьць у пераконаньні, што „крук круку вока ня выдзяўбе“.**

Аб пачынаньнях ураду Бартля-Пілсудскага сьведчыць красамоўна прыняты на апошнім паседжаньні Сойму квартальны бюджэт, які прыняты быў, якім хацеў яго ўрад.

Бюджэт гэты **ня розьніцца** прынцыпова **нічым** ад папярэдняга бюджэтнага праекту міністра Зьдзехоўскага — ёсьць толькі **большы**, пры чым надвышка зроблена коштам **пасярэдніх падаткаў**, г. зн. **абрамяненьня выключна працоўных масаў.** Павялічаны выдаткі на міністэрства Замежных Спраў, г. зн. на пэнсіі для заграничных дыплёматаў і на Міністэрства Унутраных Спраў і Справядлівасьці,— знач.—на міністэрства паліцыі і мініст. вастрогаў.

Як чужая, так і свая фінансіэра імкнецца да звальненьня сябе ад кантролю Сойму. Удзел прадстаўнікоў сялянска-работніцкіх масаў, а навет угадовых угрупаваньняў на паседжаньнях Сойму для яе ня выгадны.

Не падлягае сумліву, што ад сучаснай соймавай большасьці ўрад дастане жаданыя паўнамоцтвы. Капіталістычна - абшарніцкая соймавая большасьць зробіць гэта ахвотна, **бо ведае**, што пры **новым** стане рэчы яшчэ мацней возьме лейцы ўраду ў рукі,—ведае, што **праводзячы дыктатуру— праводзіць яе для самой сябе.**

Але мы, прадстаўнікі сялян і работнікаў уціснанай беларускай нацыі, як найвастрэй, пратэстуем проці дыктатуры капіталістычна-абшарніцкай супалкі. Мы раскажам шырокім працоўным масам, што цяпер пагражае ім яшчэ большая небясьпека, як раней. Скажам тым масам, што толькі арганізаваная і салідарная барацьба з рэакцыяй і згодай можа іх вызваліць з ярма нуды.

**Галасаваць будзем проці паўнамоцтва для Прэзыдэнта і Ураду.**

## Інтэрпэляцыя № 66

дэпутата **Сабалеўскага** з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў ў **справе нарушэньня права Сьвержанскай гмiннай уладай.**

Польская конституцыйная ўлада зьнішчыла сельскія самаўрады, якія былі навет за часоў царызму. Назначаныя староствамі на месца выбіраных даўней войтаў урадавыя камісары зьяўляюцца плягай беларускай вёскі.

Вось, што нам пішуць са Стаўпецкага пав.:

У лістападзе мінулага году гмiнная ўлада змусіла жыхароў в. Сьверанова, Арэхава, Акінчыцы, Мікалаеўшчыны і Русаковіч Сьвержанскай гміны і таксама з некаторых вёсак Стаўпецкай гміны, перавозіць калючы дрот на прыгранічны пояс. Паводле ўмовы належалася сялянам каля 6 злот. за фурманку. Да сёньняшняга дня, аднак, ня выплацілі гэтага. Пацярпэўшыя сяляне зьвярталіся да 8-га баону Прыгранічных Войск, знаходзячагася цяпер у Стаўпцох, які заўсёды стаяў на вышэй памянутым прыгранічным адцінку. Аказалася, што 8 баон Прыгр. Войск выплаціў належачыя сумы ўрадам сельскіх гмінаў, якія з невядомых прычынаў факт гэты тояць, да гэтай пары грошай ня выплацілі і выплачываць ня хочуць.

Дзеля гэтага падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці склонны ён загадаць сьледзтва ў гэтай справе і віноўных пацягнуць да адказнасьці?

2) Ці маніцца загадаць, каб ураз-жа выплацілі сялянам належныя ім сумы.

Варшава, 28 красавіка 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

## Інтэрпэляцыя № 68

паслоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да паноў Міністраў Унутраных спраў і справядлівасьці ў справе **арыштаваньня, катаваньня і пратрыманьня чуць ня год у сьледчым вастрозе Сахора Скудзіцкага з Слоніму.**

Ня раз ужо зьвярталіся мы да ўраду ў форме інтэрпэляцыяў, паказваючы на кроў марозячыя ў жылах адносіны ў Заходняй Беларусі. Падавалі мы цэлы рад фактаў, даказвалі, што паліцыя спаўняе на нашых землях ролю сярэднявэчных катаў, даводзячы народ да адчаю і г. д. Даказвалі мы, што сьвядомае заплюшчваньне вачоў з боку адказнай сфэры і забясьпечаньне катуючай паліцыі поўнай безадказнасьці, можа аб'ясьняць пануючыя ў Заходняй Беларусі адносіны. Ніжэй пададзенае пісьмо ў справе катаваньня Сахора Скудзіцкага не зьяўляецца адорваным фактам. Гэта ёсьць толькі ілюстрацыя пануючых у Заходняй Беларусі адносінаў. Дадаць тут толькі трэба, што слонімская палітычная паліцыя выдзяляецца навет на Беларусі сваей жорсткасьцю.

Вось што нам піша Моўша - Хаім Скудзіцкі, праж. ў Слоніме, — бацька арыштаванага і катаванага Сахора Скудзіцкага.

„У верасьні 1925 г. мой сын быў арыштаваны ў Слоніме экспозытурай палітычнай паліцыі і па пратрыманьні яго 2 дзен у мясцовым арыштце адасланы ў Беласток. Трымалі яго там 9 дзён, у працягу якіх „бадалі" яго тры разы ў справах, аб якіх мой сын нічога ня ведаў. Пры „баданьні" падвалі яго страшэнным катаваньням. Паміж іншымі адзначаліся пры біцьці шпіёны Кшэскі, „пшодоўнік" № 60, кіраўнік экспозытуры дзярж. паліцыі м. Бярэсьця і цэлы рад іншых, прозьвішчы якіх яму ня ведамы, але якіх сын мой можа пазнаць. Катаваньні адбываліся наступным спосабам: скоўвалі рукі, а паміж пальцы рук укладалі ключы і гэтак ціснулі рукі, што папухлі пальцы. Дамагаліся, каб падпісаў пратакол у справе зусім яму няведамай, а як толькі адмаўляўся, то зноў зачыналі новыя катаваньні. Паміж скутыя рукі ўкладалі ногі, і паміж рукамі і нагамі працягвалі кол і пачыналі яго круціць каля кала, пакуль ня траціў прытомнасьці, а калі зноў адмаўляўся падпісаць пратакол, клалі яго зьвязанага на зямлю, некалькі асоб садзіліся на жывот і, заткнуўшы рот гонучай, пачыналі ліць цераз нос нячыстасьці з бутэлэк, якіх да часу патраты прытомнасьці налічыў 15. Што далей сталася, ня ведае, бо страціў прытомнасьць.

Пры ўсім гэтым адзначаліся вышэй памянутыя Кшэскі і „пшодовнік" № 60.

Пасьля гэтага кіраўнік экспозытуры Берасьцейскай палітычнай паліцыі біў шомпалам па пятах, што выклікала боль і што ня можна было зносіць, тым больш, што быў ужо паўжывы пасьля папярэдніх катаваньняў. Напісаўшы пратакол, адаслалі яго да сьледаваця Сурэвіча ў Бельску Падляскім; сьледавацель, перагледзіўшы пратаколы, адаслаў яго да слыннага Бельскага „шпіталю".

У „шпіталі" „бадалі" яго аналёгічна, як у Беластоку. Ня могучы зносіць далейшых катаваньняў, мой сын, напаўпрытомны з прычыны дазнаных катаваньняў, падпісаў напісаны паліцыяй пратакол. Зазначаю, што да падпісаньня пратаколу змусілі яго 3 дні галадаць. Галадаў бы яшчэ больш, але на інтэрвэнцыю пракурора далі яму есьць. Пасьля пратрымалі яго два тыдні, каб зьніклі знакі біцьця і пасьля адаслалі яго да сьледаваця Сурэвіча. У сьледаваця падпісаў тыя самыя пратаколы, бо экспозытура палітычнай паліцыі пагражала яму, што, калі адмовіцца падпісаць, адашлюць яго ізноў у „шпіталь„ і вышэй апісаныя катаваньні паўторацца. Нарэшце адаслалі яго па некалькітыднёвым папярэднім (prewencyjnym) арыштце ў Бельску, — у Беластоцкі вастрог, дзе і цяпер знаходзіцца.

У вастрозе, прыйшоўшы да сябе, напісаў скаргу да пракурора, просячы, каб загадалі паўтарыць дапрос, таму што вымушаныя ад яго паказаньні не адпавядаюць праўдзе. Пракурор загадаў дапрос, але да гэтай пары дапрос ня зроблены".

Падаючы гэта да ведама п. п. Міністраў, ніжэй падпісаныя пытаюцца:

Пана Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці склонны ён ураз-жа загадаць сьледзтва ў справе катаваньня Сахора Скудзіцкага?

2) Ці віноўныя будуць ураз-жа зьвольнены з сваіх становішчаў і пацягнуты да карнай адказнасьці?

3) Ці і які загад маніцца п. Міністар выдаць, каб зьліквідаваць сыстэму акрутных рэпрэсіяў у Заходняй Беларусі?

а таксама п. Міністра Справядлівасьці:

1) Ці склонны ён загадаць ураз-жа рэвізію справы Скудзіцкага.

Варшава, 25 чэрвеня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

## Інтэрпэляцыя № 69

дэпутата **Юрыя Сабалеўскага** з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да пана Міністра Дзяржаўных Чыгунак **у справе пакрыўджаньня эмэрыта Антона Нечыпаровіча.**

Ашчаднасьці ў дзяржаўным бюджэце праводзяцца па лініі найменшага апору. Абрэзваюцца і затрымоўваюцца галодныя рэнты ўдоў, сірот і эмэрытаў.

З Стаўпцоў атрымалі мы ад эмэрыта Антона Нечыпаровіча наступнае пісьмо:

„Ад 1876 да 1917 году служыў я на расейскіх чыгунках у характэры этатавага працоўніка, з таго 8 гадоў на чыгунках пад дзяржаўным загадам і 40 гадоў на чыгунках пад прыватным загадам.

Ад 9 сакавіка 1920 году да 15 ліпня 1920 г. служыў на Польскай Дзяржаўнай Чыгунцы („П. К. П.") у Вільні, і служба была перарвана з заняцьцем Вільні бальшавіцкім войскам у 1920 г.

Пасьля заняцьця Вільні польскім войскам ў 1920 быў зноў прыняты я на службу на Польскую Дзяржаўную чыгунку („П. К. П.") і аддэлегаваны ў Бярэсьцейскую Паддырэкцыю, скуль быў я назначаны на становішча тэхнічнага агэнта 7ай катэгорыі на ст. Баранавічы, а пасьля з дня 1-га студзеня 1921 году быў назначаны на тое самае становішча і тае-ж катэгорыі 7 на ст. Стаўпцы.

Пасьля двох гадоў службы ў Стаўпцох „зрэдукавалі" мяне бяз ніякай віны з становішча Тэхнічнага Агэнта на „рэвідэнта" вагонаў з 7 катэгорыі на 9 катэгорыю, прычым на неадначаснае маё пытаньне аб прычыне пераводу мяне на ніжэйшае становішча, ніякога адказу не атрымаў.

31 сакавіка 1921 году Віленскай Дырэкцыяй была вызначана дохтарская камісія, якая прызнала мяне зусім ня здольным да працы, дзеля чаго гэтая Дырэкцыя ад дня памянутай даты звольніла мяне з службы паперай за № 21/о 3393—25/III—1925 г. Мушу аднак зазначыць, што з прыняцьцем на службу Польскай Дзяржаўнай Чыгункі („П. К. П.") дохтарская камісія прызнала мяне здаровым.

Адначасна з звальненьнем мяне з службы, Віленская Дырэкцыя зажадала ад мяне прадставіць адпаведныя дакумэнты для вызначэньня эмэрытуры, якія і былі пададзены мною ў Дырэкцыю, а тая апошняя 3/XII 1925 г. за №№ 43/044796 адаслала да Міністэрства Чыгунак, дзе справа мая да гэтай пары ня вырашана і на маё запытаньне атрымаў адказ, што „справа аб прызнаньні мне эмэрытуры пакуль што вырашана быць ня можа".

Дзеля таго, што гэты адказ не выясьняе стану рэчы, г. ё. ня кажа, на якой падставе ня можа быць вызначана належачая мне эмэрытура, бо ж 1) маю 70 гадоў, 2) дохтарская камісія прызнала мяне зусім няздольным да працы з прычыны патраты здароўя на 100%, што дае права дадаць 10 гадоў да гадоў мае службы і 3) быў я „зрэдукаваны", а значыць, зусім звольнены з службы бяз ніякай віны, але толькі на падставе патрачанага здароўя, то здавалася-б, што згодна з абавязваючым эмэрытальным уставам эмэрытальная помач павінна была-б быць вызначана ўраз-жа, тымчасам, як яе чакаю ўжо год, ня кажучы ўжо аб вынагараджэньні за бязвіннае зрэдукаваньне з 7 катэгорыі на 9.

Знаходжуся ў вельмі цяжкіх матэрыяльных абставінах і ня маю ніякіх срэдзтваў да жыцьця.

Падаючы гэта да ведама п. Міністра, ніжэй падпісаныя пытаюцца:

1) Ці склонны ён ураз-жа загадаць следзтва ў гэтай справе, каб задаволіць слушныя прэтэнсіі эмэрыта Нечыпаровіча?

Варшава 25. VI 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

## Інтэрпэляцыя № 70

дэпутата **Пётры Мятлы** з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе арыштаваньня чатырох навабранцаў на станцыі Будзіслаўлі.**

Арышты і рэпрэсіі зьяўляюцца зьместам польскіх урадаў у Заходняй Беларусі. — Вось падаем факт арыштаваньня і пратрыманьня ў вастрозе чуць не паўтара месяца 4 навабранцаў, г. зн. тых, што апрача агульных павіннасьцяў на карысьць ураду ахвяроўваюць свой час і труд для службы ў арміі.

27 траўня сёл. году зьявіліся на станцыю 4 навабранцаў: Янка Згаловіч з в. Яцкавічы, Флёрыян Шкадун з в. Палесьсе, Францішак Панкратовіч з в. Хамарава і Францішак Сівіцкі з вёскі Будлаў — усе Будслаўскай гм., Вялейскага пав., Віленскага ваяводзтва.

Навабранцы былі традыцыйна падпіўшы і дамагаліся, каб ім выдалі бясплатныя білеты на праезд чыгункай. Але, калі пераканаліся, што дармавых білетаў не дастануць — купілі нармальныя білеты. У рэзультаце гэтага усіх чатырох арыштавалі і да цяпер трымаюць іх, закідваючы „процідзяржаўную агітацыю", у Вялейскім вастрозе.

Падаючы гэта да ведама п. Міністра, ніжэй падпісаныя пытаюцца:

Ці і які загад маніцца ён выдаць, каб ураз-жа звольнілі вышэй памянутых навабранцаў з вастрогу ў Вялейцы і пацягнуць да адказнасьці віноўных арышту.

Варшава, 6 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

## Інтэрпэляцыя № 71

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў у **справе нявыдачы Вялейскім Староствам „обыватэльства" Андрэю Масевічу і яго сям'е.**

На землях Заходняй Беларусі яшчэ да цяпер ёсьць цэлы рад грамадзян, якім адміністрацыйная ўлада адмаўляе ў „обыватэльстве". Дзеля гэтага гэтыя грамадзяне і фармальна пазбаўлены правоў. Выдача або нявыдача „обыватэльства" выключна залежыць ад таго, як гэта падабаецца адміністрацыйнай уладзе. Гэта яшчэ адна пляга, якой польская адміністрацыя мучыць беларускі народ.

З Вялейскага пав. нам пішуць:

Жыхар Андрэй Масэвіч радзіўся ў в. Рудакі, дзе мае ўласную зямлю. У гэтай-жа вёсцы жыў ён без перарыву да 1914 году, а ў пачатку сусьветнай вайны выехаў разам з сям'ей у Расею. У родную вёску вярнуўся з жонкай ў 1924 г., а сын з нявесткай вярнуліся ў 1925 годзе,

Прайшло ўжо два гады як Андрэй Масевіч, вярнуўшыся з Расеі, безрэзультатна стараецца пацьвердзіць „обыватэльство". Ані ён, ані яго жонка ня маюць пашпартоў („dowodów osobistych"), што наражае іх на цэлы рад прыкрасьцяў, Гэтак сама і з сынам яго, Мікалаем, які вярнуўся на год пазьней; — ня гледзячы на ўсе свае стараньні, ён ня толькі ня можа дастаць ані сабе, ані жонцы пашпарту, але навет — „karty pobytu".

Якія адносіны „крэсавых кацыкаў да беларускага народу, можа сьведчыць факт, што ў часе апошняй візыты Масевіча ў пашпартовага рэфэрэнта пры Вялейскім старостве, апошні даў гэтакі адказ: „тады будзеш гаварыць аб сцьвярджэньні „обыватэльства", калі ніхто з вашай сям'і ня будзе гаварыць парасейску.

Ніжэй падпісаныя пытаюць пана Міністра, ці склонны ён загадаць:

1) Ураз-жа разглядзець гэтую справу?

2) Безадкладна выдаць сям'е Масевіча пашпарты (dowody osobiste")?

Варшава, 15 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

## Інтэрпэляцыя № 72

дэпутата **Ю. Сабалеўскага** з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе гвалтаў паліцыі ў справах абшарнікаў з сялянамі за зямлю.**

Пры сучасным урадзе, што паўстаў пад лёзунгам „направы і маральнага адраджэньня", нічога не зьмянілася на землях Заходняй Беларусі. Паліцыя, як і раней, душыць і тэрорызуе народ, а ў справах паміж сялянамі і абшарнікамі за зямлю паліцыя спаўняе роль абшарніцкіх эканомаў. — Ведама ўсім, што вырашэньне спораў у праве валаданьня зямлёю належыць да кампэтэнцыі судоў. Але ў выпадках, калі зацікаўленай старана зьяўляецца абшарнік, паліцыя робіць аружныя напады на сялян і змушае іх зрачыся сваіх правоў на карысьць абшарніка. Іначай кажучы, — права абавязвае толькі сялян, абшарнік-жа можа паступаць, як хоча, а кожнага, хто яму спрацівіцца, стэрорызуе паліцыя.

У Маладэчанскім пав. абшарнік бясправўна прадаў кавалак сэрвітутнай зямлі, ляжачай паміж маёнткам Чарнёва і в. Дарахі, Гарадзецкай гм. Якуб Казэлюк, які купіў сэрвітут, прыехаў гараць зямлю. Сяляне спрацівіліcь. Тады (26. V. сёл. г.)

прыехала паліцыя з Гарадзецкага і Караблянскага пастарунку. Камандант д. п. склікаў усіх сялян з в. Дарохі і, злаяўшы іх бандытамі і г. п., сказаў, што п. Казэлюк будзе гараць, а сяляне ня будуць карыстаць сэрвітутам, бо гэтак загадаў староста. Непаслушным пагразіў вастрогам у Вялейцы.

Сяляне з непамятных часоў карысталі памянутым сэрвітутам і цяпер пазбаўлены засталіся адзінага свайго пасьвішча. І таму-та, калі на трэйці дзён, г. з. 27. VI. с. г. прыехаў зноў Казэлюк з плугамі гараць пасьвішча, сабраліся з цэлай вёскі кабеты, дзеці і старыя дзяды, каб не дапусьціць да гараньня. Тады выляцела затоеная ў кустох пешая і конная паліцыя і пачалась расправа. Сяляне ў адчаю баранілі пасьвішча, якое зьяўляецца залогам іх істнаваньня, а паліцыя таптала іх коньмі і біла шаблямі. Пасьля арыштавалі 6 сялян, у тым ліку 14 летняга хлапца.

А вось другі факт падобнага роду:

28 жніўня 1925 году Казьмер Чурына з в. Круты Бераг, Гарадзецкай гм., Нясьвіскага пав., купіў кавалак зямлі ў Марылі Халавацкай, пражываючай у маёнтку „Горны Гарадзей". Зрабілі кантракт у натарыуса Кароля Русоцкага, пры чым купляючы заплаціў 4/5 умоўленай цаны. Дзякуючы таму, што Чурыла не заплаціў рэшты сумы, Марыля Халавецка адабрала гэтую зямлю і зноў прадала гэты-ж кавалак—другому купцу.

Не падлягае найменшаму сумліву, што разрашэньне гэтага спору належыць да кампэтэнцыі суду і паліцыя нічога ня мае з гэтым супольнага. Тымчасам паліцыя, як і ў цэлым радзе падобных выпадкаў, так і тут, выступае заўсёды ў абароне абшарнікаў, гвалцячы правы сялян. — Вось, што нам пішуць аб удзеле паліцыі ў справе вышэй апісанага спору за зямлю:

29 чэрвеня сёл. году паліцыя з пастарунку ў в. Гарадзей арыштавала Казьмера Чурылу і пад пагрозай нагаек жадала ад яго, каб зрокся сваіх правоў на куплены ў маёнтку Халавецкай кавалак зямлі. — Калі Чурыла ставіў на спорнай зямлі стадолу, зьявіўся на месца будовы ўласьнік маёнтку „Горны Горадзей" з паліцыяй і зажадаў праваньня работы. Калі Чурыла адмовіўся, абшарнік кінуўся на селяніна з кіем і пабіў яго, а паліцыя стаяла ды глядзела на гэта,—зусім не рэагуючы.

Нарэшце ў часе сенакосу абшарнік забраў у селяніна скошанае сена, пры чым паліцыя ня толькі была тут, але жадала ад селяніна, каб адышоў стуль і пагражала ў праціўным выпадку арыштам.

Дзеля вышэй сказанага ніжэй падпісаныя пытаюцца:

1) Ці склонны п. Міністар научыць адпаведныя адміністрацыйныя ўлады Маладэчанскага пав., што паліцыя зусім не зьяўляецца лейбгвардыяй паноў абшарнікаў.

2) Ці маніцца п. Міністар пацягнуць да жорсткай адказнасьці Гарадзейскую і Караблянскую паліцыю, а таксама адказную павятовую адміністрацыйную ўладу за бяспраўнае ўмешваньне ў справы цывільнага спору?

3) Ці віноўныя біцьця, пакалечаньня і арыштаў сялян з в. Дарохі будуць ураз-жа зволнены з дзяржаўнай службы і пацягнуты да карнай адказнасьці?

4) Ці і які загад уважае патрэбным выдаць, каб ў прышласьці не паўтарыліся падобныя факты.

Варшава 16 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя № 73

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе бяспраўнага арыштаваньня беларускіх сялян Мядзельскім пастарункам дзярж. паліцыі.**

Бяскарнасьць паліцыі на г. зв. „Крэсах" давяла яе да нябывалага зухвальства. Паліцыянт чуецца панам жыцьця і сьмерці тэрарызаванай ім люднасьці, брутальна паневяраецца ён людзкой чэсьцю грамадзяніна і ня зносіць найменшага супраціву.

Вось, што нам пішуць з Пастаўскага павету:

2 чэрвеня сёл. году жыхар в. Шыкавіцы, Мядзельскай гм. Янка Лапцік быў на кірмашы ў Мядзеле. Увечары зайшоў у рэстаран Слободковіча, дзе сабралася многа гасьцей. Пасьля нейкага часу ўвайшоў камандант мясцовага пастарунку дзярж. паліцыі і зварочваючыся да кожнага па чарэзе пытаў: „ці ты пьяны?"—Гэтак сама зьвярнуўся і да Лапціка, які далікатна зьвярнуў яму ўвагу на неадпаведнае захоўваньне яго. Абражаны гэтым камандантант кінуўся на Лапціка, выцягнуў яго з рэстарану і прыклікаў сьвістком двох паліцыянтаў, якія сілай зацягнулі селяніна на пастарунак д. п. Лапцік упіраўся, як толькі мог, бо біцьцё мядзельскай паліцыі добра ведама ваколічным сялянам і не забыліся яны, як на гэтым самым пастарунку замучылі на сьмерць у 1924 годзе Станіслава Пашкевіча з в. Пашарачына. Аднак Лапціка абдужалі і завалаклі на пастарунак, дзе старшы „пастарунковы" Краеўскі з усяе сілы ўдэрыў яго ў твар. Гэтую сцэну бачылі праз прачыненыя дзьверы сяляне і чулі крыкі бітага. Адзін з гэтых прыпадковых сьведкаў, Роўда, пасьля прышоў прасіць, каб зьвольнілі арыштаванага, фурманка якога стаяла без апекі на пляцы. У рэзультаце і сам быў арыштаваны. Тады пайшоў другі з сьведкаў, Захарэвіч, з просьбай, каб зьвольнілі абодвых арыштаваных,—спаткаў яго гэтакі-ж лёс, як і папярэдніх. Пасьля паўгадзіны праходзіў каля пастарунку Касьцельны Зверуга і, даведаўшыся аб вышэй апісанай авантуры, пайшоў да каманданта, каб заступіцца за арыштаваных. Хацелі і яго арыштаваць, але ён вырваўся і ўцёк. Дагналі аднак яго паліцыянты і, ня могучы затрымаць яго сілай, заманулі на пастарунак ашуканствам, — нібы для падпісаньня пратаколу. Прыйшоўшы на пастарунак, Зверуга таксама быў арыштаваны. Гэтак пазбылася паліцыя нявыгодных сьведкаў свае самаволі. Пасьля гэтых выпадкаў ніхто ўжо ня меў адвагі заступіцца за арыштаваных.

Усіх арыштаваных пратрымалі пору (суткі) на пастарунку. Наступнага дня г. зн. 3. VI. с. г., адаслалі іх скаваных да мірвога судзьдзі ў Міскаліно. Тут толькі, як іх выслухаў судзьдзя, даведаліся яны, што паліцыя, каб апраўдаць сябе ад зробленых ею гвалтаў, прыпісвае ім палітычную справу. А іменна абвінавацілі іх... у нападзе з мэтаю аграбленьня, на пастарунак дзярж. пал. ў Мядзеле.

Міравы судзьдзя, выслухаўшы, зволніў арыштаваных, забавязаўшы іх не адлучацца з месца свайго пражываньня.

Абвінавачаныя могуць даказаць праўдзівасьць сваіх паказаньняў цэлым радам сьведкаў.

Вось як фабрыкуе паліцыя ў Заходняй Беларусі „палітычныя праступкі" пасьля 12 траўня сёл. году.

Падаючы вышэй апісанае да ведама п. Міністра, ніжэй падпісаныя пытаюцца:

1) Ці склонны ён загадаць ураз-жа правясьці сьледзтва ў гэтай справе?

2) Ці віноўныя гвалтаў паліцыянты будуць пацягнуты да карнай адказнасьці?

Варшава 16 ліпня 1926 году.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя № 74

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Справядлівасьці **ў справе пратрыманьня шасьцёх няпоўналетніх чуць ня год у сьледчым вастрозе ў Беластоку і катаваньня у сьледчай экспозытуры.**

Каб апраўдаць тэрор, які пануе на землях Заходняй Беларусі, палітычная паліцыя катуе арыштаваных сялян, каб змусіць іх надпісаць прыгатоўленныя ею пратаколы. Арыштаваных трымаюць пасьля доўгія месяцы, а часта і цэлыя гады ў сьледчым вастрозе, бо рэзультаты зробленага сьледзтва не адпавядаюць зьместу вымушаных пратаколаў. І таму та вастрогі на Беларусі перапоўнены вязьнямі, якія цэлымі гадамі чакаюць акту абвінавачаньня. Стан гэты трывае і да цяпер.

З Беластоцкага павету пішуць нам:

У верасьні мінулага году арыштавалі шасьцёх непаўналетніх: Аляксандра Астравецкага, радз. ў 1906 годзе, Уладзіміра Узябло, радз. у 1907 г., Анатоля Сака, радз. у 1907 годзе, Янку Кулеса, радз. ў 1906 годзе, Вітальда Семянчука, радз. ў 1905 годзе і Уладзіміра Гутніка, радз. ў 1905 г.— усіх з в. Міхайлава, Беластоцкага пав. Усіх западозрываюць у ўдзеле ў камуністычнай арганізацыі.

Усіх арыштованых нялюдзкім спосабам білі, каталі і зьдзекаваліся ў беластоцкай палітычнай паліцыі — датуль, пакуль не згадзіліся яны падпісаць пратаколы, што сфармулявала паліцыя — былі навет выпадкі, што змушала паліцыя падпісаць пратакол, не зазнаёміўшы іх навет са зьместам яго.

Ужо, лічыць, год праходзіць ад таго часу, як усе вышэй памянутыя хлопцы сядзяць у беластоцкім вастрозе і да гэтай пары не далі ім акту абвінавачаньня. Лягчэй вымусіць ад катаванага вязьня падпісаць пратакол, чым сабраць факты, якія-б усправядлівілі-б арышт, а таксама і стасаваньне навет для малалетніх пекла паліцэйскага „баданя" і вастрог.

Падпісаныя пытаюцца, ці склонны п. Міністар з „Ураду маральнага адраджэньня" загадаць:

1) Каб зьвольнілі вышэй памянутых непоўналетніх вязьняў?

2) Каб ураз-жа закончылі зацягнуўшаеся сьледзтва?

3) Каб пацягнулі да адказнасьці віноўных бяспраўнага арышту, катаваньня і злоснага пратрыманьня ў вастрозе шасьцёх непоўналетніх?

Варшава, 16 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя № 75

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да пана Міністра Справядлівасьці ў **справе бяспраўнага пратрыманьня ў сьледчым вастрозе Кастуся Вераб'я і фабрыкаваньня паліцыяй палітычных працэсаў.**

Тэрор паліцыі і адміністрацыі ў Заходняй Беларусі вядзецца ў напрамку душэньня вызваляючага сялянска-работніцкага і нацыянальнага руху. Рэпрэсіі падаюць як на сялянска-работніцкіх, так і на культурна-асьветовых дзеячоў. Тактыка заключаецца ў тым, што пратрымоўваюць людзей цэлымі гадамі ў вастрозе, каб адарваць іх ад роднага грунту; — а, каб апраўдаць сябе, фабрыкуюць якісьці важны палітычны працэс. Гэтак было раней, — гэтак — і цяпер пасьля перавароту пад лёзунгам „маральнае адраджэньне".

Вось што нам пішуць з в. Хвіневічы, Дзятлаўскай гм., Навагрудзкага пав.:

Кастусь Верабей, жыхар вышэй памянутай вёскі, ведамы быў як культурна-асьветовы дзеяч. Прыймаў чынны ўдзел у адчыненьні беларускай школы ў сваёй вёсцы. А больш акрамя гэтага — ніякай ролі ў палітычным жыцьці ня ўзяў.— Але асьветовая дзейнасьць Вераб'я выклікала незадаваленьне ўлады. Дзеля гэтага зрабілі ў яго 2-га красавіка мінулага году вобыск, які, пасьля найстараньнейшага шуканьня, ня даў ніякіх абцяжваючых рэзультатаў. Але знайшлі ў хляве старое заржавеўшае ружжо. Ляжала яно там ад 1920 г. —ваенная пазасталасьць — як непатрэбная і забытая рэч.

Ня гледзячы на тое, што Верабей выясьніў паходжаньне гэтага „доказу", і што было бяссумліўна ясным, што знойдзенае ружжо ня можа быць трактована, як „схованае аружжа", — Верабей быў арыштаваны і па сягоньняшні дзень, г. зн. чуць ня 16 месяцаў сядзіць у вастрозе — цяпер у Вільні на Лукішках. Як даведаліся мы, сьледзтва хоча прыпісаць арыштаванаму праступак з § 102 г. зн. процідзяржаўны загавор.

Падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці склонны ён загадаць, каб ураз-жа закончылі сьледзтва?

2) Ці арыштаваны Верабей ураз-жа будзе звольнены?

3) Ці віноўныя зацягненьня сьледзтва і фабрыкаваньня палітычнага працэсу будуць пацягнуты да адказнасьці.

Варшава, 16 ліпня 1926 г

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя №. 76

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе імкненьня згвалціць Кацярыну Іванецкую камандантам пастарунку дзярж. паліцыі ў Вязыне — Караленкам.**

Паліцыя на г. зв. „Крэсах" так разышлась, што ня знае ніякіх граніц. Прычынай усяго гэтага ёсьць тое, што паліцыя ў Заходняй Беларусі зусім бяскарна і безадказна.

Вось што пішуць нам з Вялейскага пав.:

21 траўня сёл. году камандант пастарунку дзяр. пал. ў Вязыне, Караленка, прыехаў да Рагавіч, дзе загадаў цэлы дзень частаваць яго ў мясцовай карчме, а ўвечары загадаў, каб яму дастарчылі кабету. Услужлівыя „людцы" завялі „пана Каманданта" да Кацярыны Іванецкай.

Выбралі гэтую ахвяру таму, што ведалі, што Іванецкая ўдава і пры тым вельмі бедная і — значыць — ня будзе каму яе бараніць, і ня будзе мець яна ані матэр'яльных срэдзтваў, ані адвагі, каб пацягнуць пана Каманданта да адказнасьці.

Караленка каля поўначы ўдаўся да памянутай удавы і хацеў яе згвалціць. Іванецкая з усіх сіл змагалася з напасьнікам, а малыя яе дзеці, з якіх найстарэйшая дзяўчынка мела 11 гадоў, баранілі мацяру крыкам і плачам. Дзеці-та і абаранілі няшчасную кабету, падаючы ёй хатнія рэчы для барацьбы з напасьнікам і самы бяручы ўдзел у гэтай барацьбе. З рассьветам выйшаў Караленка не дапяўшы сваёй агіднай мэты. Іванецкая, вызваліўшыся шчасьлівым зьбегам абставінаў ад напасьці, праз увес дзень не магла ўстаць з ложка, бо ў рэзультаце некалькігадзіннай барацьбы ўсё цела было пабіта і ў сінякох.

Падаючы вышэй апісанае да ведама п. Міністра ніжэй падпісаныя пытаюцца:

1) Ці маніцца загадаць ураз-жа правясьці сьледзтва ў гэтай справе?

2) Ці паліцыянт Караленка будзе ураз-жа зьвольнены з дзяржаўнай службы і пацягнуты да карнай адказнасьці.

Варшава, 16 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя №. 77

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў у **справе пабіцьця Янкі Клюткі паліцыяй з Івацэвічаў.**

З усіх куткоў Заходняй Беларусі прыходзяць што-дня скаргі на паступкі паліцыі.

З Косаўскага п., Палескага ваяв. нам пішуць:

Янка Клютка з в. Ягмыч, Борка-Гічыцкай гм. вартаваў ноччу з 27 на 28 траўня сёл. году На ранку ўвайшоў у хату. Не пасьпеў навет яшчэ сесьць, як пачуў стук у дзьверы. Ураз-жа выйшаў і спаткаў на падворку двох паліцыянтаў з Івацэвіцкага пастарунку п. п. Андлэўскага і Жултка. Адзін з іх кінуўся на Клютку і пачаў з усяе моцы біць яго ў грудзі, пакуль не зваліў яго з ног. Зьбіты некалькі наступных дзён ня мог устаць з ложка і да цяпер чуецца хворым.

Ніжэй падпісаныя пытаюцца ў п. Міністра:

Ці склонны загадаць суровае сьледзтва ў гэтай справе і пацягнуць да адказнасьці віноўных пабіцьця Янкі Клюткі.

Варшава 16. VII. 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

Выдавец: Соймавы Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Друкарня Н. Левін і Сын. Вільня, Нямецкая 22